**№ 73 (4018)**

18 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Не спазніцеся з падпіскай на IV квартал!**
*Ведаем: у многіх з Вас, шаноўныя чытачы, тэрмін падпіскі на газету заканчваецца ў канцы верасня, і, каб атрымліваць "Народную Волю" ў IV квартале, трэба яе прадоўжыць. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку" да 28 верасня. Не спазніцеся!*

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Ложная беременность

Этот удивительный феномен до конца непонятен даже медикам — ложная беременность. Все признаки беременности у женщины присутствуют: живот растет, по утрам тошнит, резкие запахи раздражают, соленые огурцы истребляются банками и так далее и тому подобное. Только вот ребеночка нет. И, оказывается, это не просто патология, а проявление комплекса болезней одновременно. Причем объяснить ситуацию женщине, которая как большую драгоценность носит свой огромный живот и абсолютно уверена, что внутри нее новая жизнь пинается и шевелится, бывает весьма непросто.

Белорусские выборы — это та же ложная беременность. На первый взгляд все признаки присутствуют. Кандидаты — в наличии, ЦИК бдит, подписи собираются, комиссии формируются, программы публикуются, пикеты проводятся, выступления транслируются, плакаты висят, буфеты работают. Но где выбор? Где ребенок?

И, собственно, я говорю даже не про день голосования, подсчет бюллетеней и возможность наблюдателей все это видеть, фиксировать и убеждаться в честности объявленных результатов. Я — о выборе, который должны сделать избиратели между разными стратегиями, разными программами, разным видением приоритетов государственного развития. Ведь суть, назначение и смысл выборов в том, чтобы состоялась максимально обостренная дискуссия о самых болезненных вопросах жизни государства, по итогам которой простой человек (в совокупности — народ) мог бы решить, как, куда и с кем дальше двигаться.

Не будем лукавить: многим интеллектуалам эта идея не нравится в принципе — чтобы и академик, и алкоголик на равных участвовали в принятии судьбоносных решений государственного уровня. В интеллигентской среде даже политнекорректная шутка гуляет: мол, когда кухарки стали управлять государством, исчезла еда. Однако сформулировал в свое время Жан-Жак Руссо идею общественного договора — народовластия, согласно которой каждая отдельная кухарка может быть полной дурой, но у всех вместе в них просыпается некая народная мудрость, коллективный разум, обеспечивающий самое правильное и справедливое управление государством. На том и стоим. На этом и зиждятся все демократии.

И вот вы простая белорусская кухарка. На чужое не претендуете, своим дорожите, честно работали, что-то зарабатывали. Ничего сверхъестественного от жизни не хотели, хотели только мира, спокойствия, благополучия, стабильности и хоть какой-то гарантии на старость. На прошлых выборах за это и проголосовали.

На 19 декабря 2010 года, когда проходили президентские выборы, один доллар стоил 3005 белорусских рублей; на сегодня, за три недели до новых выборов, — 17.600 рублей. То есть если 19 декабря 2010 года вы имели в загашнике 10 миллионов белорусских рублей — на черный день, на старость, на похороны, на свадьбу, на иные житейские ситуации, то это было больше 3 тысяч долларов. (Не ахти какие деньги, но хоть что-то.) Сегодня эти 10 миллионов превратились из 3 тысяч в жалкие 550 долларов. То есть за пять лет вы обеднели в 6 раз!!!

Вы хотите знать, кто виноват, кто допустил просчеты, кто неправильно управлял государством и что делать, чтобы подобное не повторилось?

Конечно! Более того, вы не только имеете право, вы должны это знать! Потому что если механизм заклинило (пусть даже речь о государственном механизме), то нельзя устранить неисправность, не остановив его и не разобравшись, что же привело к сбою. Выборы — это как раз время остановиться и разобраться. Это мозговой штурм.

На наших выборах мозг отдыхает. Александр Лукашенко от предвыборных дебатов, от предвыборных выступлений, объяснений, дискуссий отказался. Он по умолчанию стоит на том, что если обеднел человек в шесть раз, то пусть еще спасибо скажет, что жив остался. А его формальные оппоненты не возражают и не оппонируют. Они участвуют в кампании так, чтобы не обидеть и не разозлить Лукашенко. Он их основной избиратель, ему они адресуют свои речи, некоторые уже открытым текстом к нему на работу просятся.

Какой тут может быть выбор? Из чего выбирать?

*(Продолжение темы на 4-й стр.)*

НУ І НУ!

## У Аўяр'янава няма грошай на падаткі?

Другі месяц у «чорных спісах» Міністэрства па падатках і зборах Беларусі, якое штомесячна адсочвае даўжнікоў па плацяжах у бюджэт, фігуруе кампанія вядомага беларускага бізнесмена Юрыя Авяр'янава "Гандлёвы свет «Кальцо».

Авяр'янаў уключаны ў «чорны спіс» неплацельшчыкаў па Мінскай вобласці. У ім на сённяшні дзень утрымліваюцца звесткі аб суб'ектах гаспадарання, якія дапусцілі запазычанасць па плацяжах у бюджэт на 1 верасня 2015 года. Кампанія "Гандлёвы свет «Кальцо» ўваходзіла і ў папярэднюю рэдакцыю пераліку, у якім улічваліся неплацельшчыкі на 1 жніўня 2015 года. І, дарэчы, па стане на 1 жніўня ў даўжніках па сталічным спісе праходзіць яшчэ адзін бізнес Юрыя Авяр'янава – кампанія «Ростэм», якая кіруе рынкам будматэрыялаў у Мінску.

Дарэчы, па падатках перад бюджэтам не разлічыліся і іншыя вядомыя бізнесмены краіны. У даўжніках значацца кампаніі Вячаслава Доўнара, Аляксея Ваганава, Анатолія Артюхоўскага, Аляксандра Мураўёва, які знаходзіцца пад вартай, і іншых.

**Кацярына ІВАНЦОВА.**



ПОМНІМ!

## 16 гадоў без Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага



16 гадоў таму ў ноч на 17 верасня 1999 года на сталічнай вуліцы Фабрычнай **Віктар ГАНЧАР** і **Анатоль КРАСОЎСКІ** былі выкрадзены з ужываннем гвалту. Родныя і паплечнікі больш ніколі іх не бачылі.

Вядома, што ў той вечар сябры пайшлі ў лазню. Прыкладна ў 22.35 яны выйшлі з лазні і селі ў аўтамабіль Красоўскага. Можна толькі здагадвацца, што адбылося далей. У ходзе расследавання на месцы здарэння следчыя знайшлі фрагменты пластыку і шкла, а таксама трасалагічныя доказы таго, што аўтамабіль затармазіў і ўрэзаўся ў дрэва. На тым месцы знайшлі і сляды крыві Віктара Ганчара.

Сваякі і праваабаронцы настойваюць, што ў гэтага знікнення меўся відавочны палітычны матыў. У пацвярджэнне сваіх довадаў яны спасылаюцца на мемарандум, падрыхтаваны Хрыстасам Пургурыдэсам для Парламенцкай асамблеі Еўрапейскага савета. Ён зазначыў, што ў гэты перыяд прэзідэнт Беларусі заслужыў рэпутацыю палітыка, які парушае асноўныя правы чалавека, і прыгадаў, што за 4 месяцы да знікнення Ганчара і Красоўскага знік таксама міністр унутраных спраў Юрый Захаранка.

21 лістапада 2000 года начальнік крымінальнай міліцыі Беларусі Мікалай Лапацік напісаў ліст міністру ўнутраных спраў, у якім сцвярджаў, што дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман аддаў загад забіць былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранку. Паводле слоў генерала Лапаціка, гэта забойства было здзейснена высокапастаўленым афіцэрам палкоўнікам Дзмітрыем Паўлічэнкам. Міністрам унутраных спраў тады быў Юрый Сівакоў. Менавіта ён і забяспечыў Паўлічэнку пісталетам, які быў часова забраны са следчага ізалятара №1. Паводле сцвярджэнняў генерала Лапаціка, тым жа пісталетам скарысталіся і 16 верасня 1999 года, калі зніклі Ганчар і Красоўскі. Дарэчы, палкоўнік Паўлічэнка быў арыштаваны, але хутка вызвалены па ўказанні прэзідэнта.

Нагадаем: Віктар Ганчар быў у камандзе Лукашэнкі ў 1994 годзе. Пасля перамогі ва ўрадзе прабыў усяго некалькі месяцаў, хутка сышоў у апазіцыю і ўступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Быў кіраўніком Цэнтрвыбаркама, але ў 1996-м не прызнаў вынікаў рэферэндуму. Ганчар метадычна і планамерна фіксаваў памылкі і прамашкі кіраўніка дзяржавы, спадзеючыся падрыхтаваць доказную базу для імпічменту. У 1999-м узначаліў ЦВК на альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбарах. Ганчар знік 17 верасня, за дзень да таго, як планаваў удзельнічаць у якасці старшыні ў пашыранай сесіі парламента, на якой павінны былі быць заслуханы высновы Спецыяльнай парламенцкай камісіі па расследаванні цяжкіх злачынстваў, з тым каб прыняць рашэнне адносна пачатку працэдуры імпічменту.

Што да Анатоля Красоўскага, то варта ўзгадаць, што за месяц да знікнення, у жніўні 1999-га, яго арыштавалі па абвінавачванні ў нявыплаце ў тэрмін банкаўскага крэдыту. Ён унёс заклад у памеры 102.000 долараў і праз тыдзень быў вызвалены.

За 16 гадоў сваякі Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага так нічога і не даведаліся пра іх лёс.

**Любоў ЛУНЁВА.**



ДАРЭЧЫ

## На Лябедзьку склалі пратакол

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА** ўвечары 16 верасня арганізаваў пікет памяці Ганчара і Красоўскага ў цэнтры Мінска каля ГУМа.

У пікеце бралі ўдзел прадстаўнікі іншых апазіцыйных партый, арганізацый дый проста неабыякавыя людзі. Прысутнічалі міжнародныя назіральнікі.

Людзі трымалі партрэты Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Быў падрыхтаваны спецыяльны стэнд з копіямі дакументаў і імёнамі тых, каго грамадскасць падазрае ў арганізацыі знікнення і забойства Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі. «Чаму гэтых дакументаў не хапае МУС, пракуратуры? Можа быць, таму, што гэтыя дакументы вядуць на вышэйшыя паверхі нашай улады?» – запытваў Анатоль Лябедзька.

Удзельнікаў акцыі здымалі на відэа людзі ў цывільным. На Анатоля Лябедзьку і сябру АГП Мікалая Казлова склалі пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства. Падпісваць пратакол яны адмовіліся. Лябедзька заявіў, што дазволу на гэты пікет браць не трэба, паколькі паводле Канстытуцыі ў перыяд выбарчай кампаніі грамадзяне маюць права агітаваць супраць праграм зарэгістраваных кандыдатаў у прэзідэнты. Ён зазначыў, што "ні ў кога з кандыдатаў праблемы зніклых палітыкаў у праграме няма".

ПАД ГРАДУСАМ

## У выхадныя дажджы і навальніцы

Сёння, 18 верасня, яшчэ захаваецца цёплае надвор'е. Будзе пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра днём 21–28 градусаў вышэй за нуль, па поўдні месцамі да плюс 30.

*«На жаль, у гэтыя выхадныя надвор'е пагоршыцца. Атмасферны фронт, які перамесціцца з поўдня Польшчы, абумовіць у суботу і нядзелю няўстойлівы характар надвор'я. Неба зацягнецца воблакамі, пройдуць дажджы, а тэмпература панізіцца, але па-ранейшаму будзе вышэйшая за сярэднія шматгадовыя значэнні»,* – адзначыла галоўны сіноптык Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Святлана Рыбакова**.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Мікалай СТАТКЕВІЧ: "Міліцыянеры проста сапсавалі паперу"

Праз некалькі тыдняў пасля вызвалення экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікалай Статкевіч у цэнтры Мінска, ля ГУМа, ладзіў пікет "За сумленныя свабодныя выбары". Людзей прыйшло няшмат, але міліцыя склала на Статкевіча пратакол: напярэдадні палітыка папярэдзілі, што несанкцыянаваныя акцыі забаронены законам.

Якія наступствы для Статкевіча меў гэты афіцыйны дакумент? Ужо 23 верасня ён зноў кліча беларусаў на вулічную акцыю – запрашае на плошчу Свабоды, дзе плануе абмеркаваць з грамадзянамі 20-гадовае кіраванне А.Лукашэнкі. Дарэчы, Статкевіч запрасіў на гэту сустрэчу і самога Аляксандра Рыгоравіча.

– Наступства пакуль толькі адно: тыя міліцыянеры, што склалі гэты дакумент, проста сапсавалі паперу, – адрэагаваў на наша пытанне палітык. – Больш нічога. І перастаньце цікавіцца такімі драбніцамі! Гэта неістотна. Чаго вы ўсе баіцеся? Перастаньце баяцца, станьце вольнымі людзьмі! Мяне абсалютна не цікавіць гэты пратакол.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ТОЛЬКО ЦИФРЫ

## Белорусская продукция теряет внутренний рынок

К такому заключению пришли эксперты Бизнес-союза предпринимателей и нанимателей им.Кунявского, проанализировав данные официальной статистики.

Так, если в 2010 году доля отечественных товаров в объеме розничного товарооборота составляла 65,4%, в 2011-м – 63,5%, в 2012-м – 60,3%, в 2013-м – 55,1%, то в 2014 году она снизилась до 53,1%. За шесть месяцев нынешнего года доля продаж организациями торговли непродовольственных товаров отечественного производства составила 51,3%.

**Анна ГОНЧАРИК.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Нібыта козлік у агародзе

Нарэшце дачакаліся: прэтэндэнты на пасаду вышэйшага кіраўніка краіны пачалі вяшчаць у эфіры. У аўторак 15 верасня ўбачыў і пачуў з тэлеэкрана вечнага кандыдата Сяргея Гайдукевіча. Здавалася б, за многія гады яго ўпартага, хай сабе і безвыніковага, удзелу ў прэзідэнцкай гонцы можна было падвучыцца хаця б гаварыць, каб трымаць увагу слухачоў канцэнтраванасцю думкі наконт таго, што асабліва хвалюе выбаршчыкаў. А тут – цэлыя паўгадзіны выступлення, а я, звычайна засяроджаны на тым, каб улавіць галоўны стрыжань любой прамовы, ледзь адседзеў гэтыя 30 хвілін.

Перад вачыма міжволі вымалёўвалася карціна: па градах у агародзе бессістэмна скача жвавы козлік. Там адчыкне зялёны хвосцік, там стопча маладыя ўсходы, не забываючыся пры гэтым узбрыкнуць капытамі ў бок нейкага нягодніка і ў той жа час адбіць паклон таму, хто яго, козліка, пусціў, ды і часцяком пускае, у агарод.

Ніводнай разгорнутай, аргументаванай думкі наконт таго, што ж падштурхнула прэтэндэнта зноў прабівацца ў прэзідэнцкае крэсла. Проста пералічыць, што нам патрэбны стабільнасць, эфектыўная эканоміка, рэальны рост даходаў насельніцтва, забеспячэнне сацыяльных гарантый, павышэнне ўзроўню адукацыі моладзі, мірнае неба над галавой і г.д. і т.п., – ну хто супраць? Хто таго не ведае? А вось узяць хоць бы адну праблему ды разабраць па костачках, паказаць, якія канкрэтныя шляхі рашэння бачыць сам С.Гайдукевіч і яго партыя ЛДП, – дык ні-ні... А галоўнае – дзе ж грошы ўзяць на такі сур'ёзны замах, калі ў дзяржаўнай скарбонцы іх няма і няма, а даўгі бяруць за горла, – зноў ні слоўца.

Затое, заявіўшы амаль з першых слоў сваёй прамовы, што *«все мы разные, но нас всех объединяет...»* (гэта трэба разумець, што прамоўца – за плюралізм думак у грамадстве), ён тым не менш абрыньваецца на іншадумцаў ("пробелорусскую оппозицию»), погляды якіх называе неперакананаўчымі. *«Наши деструктивные элементы»,* аказваецца, зрабілі нешта страшнае: толькі *«в этом году перед началом президентской кампании схватились за лозунг независимости»*. І ад каго – ад самой Расіі! Выходзіць, што нашы вольналюбныя продкі, якія *«схватились»* яшчэ даўным-даўно за лозунг незалежнасці, насмерць стаялі за гонар і свабоду Бацькаўшчыны, кроў пралівалі і жыцці аддавалі за яе, – паводле класіфікацыі Гайдукевіча, *«деструктивные элементы»?!* Сапраўды язык без касцей, не ведае, што з яго злятае. Ці не было гарачых 1990-х, калі барацьба за незалежнасць Беларусі была ў цэнтры ўсіх высілкаў нашай дэмапазіцыі?

Цікава, што, забыўшыся на гэты раз пра свой гнеў на адрас гэтых нядобрых «незалежнікаў», кандыдат на прэзідэнцкую пасаду не забываецца сказаць *«большое спасибо Александру Григорьевичу Лукашенко. Президенту. За то, что он сохранил суверенитет, сохранил независимость»* страны. І – прапанаваць свае паслугі новаму, паслявыбарнаму ўраду. Разнёсшы ў пух і прах сённяшніх міністраў, такіх спрэс безініцыятыўных, нягеглых, што заседзеліся ў сваіх кабінетах, С.Гайдукевіч прапануе іх замяніць на новых – дзейсных, разумных, эфектыўных. *«Я сам готов с удовольствием поучаствовать в этом»,* – прызнаецца прамоўца з экрана. Дык вось дзе, нарэшце ясна, зарыты сабака! Вось дзеля чаго ўвесь гэты сыр-бор: калі не перамагу, дык дайце хоць крэсла міністра!

Навошта нейкая логіка, аргументаванасць фактаў і пастулатаў? Можна ж, распачаўшы фразу аб адным, нічога не дагаварыць і перакінуцца на іншае, паўтараць адно і тое ж, не даводзячы да канца ўжо не раз сказанае... Абы займаць час, не маючы што канкрэтнага сказаць людзям. Толькі – *«падвышаць, паляпшаць, нарошчваць, павялічваць»*... Зноў вобраз козліка на градах: пусцілі! Можна паскакаць! Пакланюся – дык прылашчаць і яшчэ пусцяць...

Тут ужо і «Жыве Беларусь!» напрыканцы прамовы не ратуе.

**Міхась ДАНІЛЕВІЧ, мінчанін.**

ЧУЛІ?

# Адміністрацыйна арыштаваныя павінны месці вуліцы па 8 гадзін у дзень

*Савет міністраў Беларусі вызначыў парадак прыцягнення адміністрацыйна арыштаваных да выканання грамадска карысных работ. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове №771 ад 15 верасня 2015 года.*

Паводле дакумента, які прыняты ў выкананне дэкрэта А.Лукашэнкі ад 2 красавіка 2015 года №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага дармаедства», вызначаецца, што прыцягненне да выканання грамадска карысных работ асоб, якія адбываюць адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе адміністрацыйнага арышту, ажыццяўляецца на падставе заявак арганізацый, якім належаць аб'екты, уключаныя ў пералікі для адміністрацыйна арыштаваных. Заяўкі перадаюцца арганізацыямі ў тэрытарыяльныя органы ўнутраных спраў, якія маюць у структуры цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў альбо ізалятар часовага ўтрымання, не пазней як за суткі да пачатку выканання грамадска карысных работ.

Вызначаецца, што штодзённая працягласць прыцягнення адміністрацыйна арыштаваных да выканання грамадска карысных работ не павінна перавышаць 8 гадзін, а тыднёвая працягласць – 40 гадзін.

Адміністрацыйна арыштаваным на працягу часу выканання грамадска карысных работ прадастаўляецца перапынак для адпачынку і харчавання працягласцю не менш за 20 хвілін і не больш за адну гадзіну. Час перапынку для адпачынку і харчавання не ўключаецца ў працягласць выканання грамадска карысных работ.

У адпаведнасці з дакументам, працягласць выканання адміністрацыйна арыштаванымі грамадска карысных работ улічваецца арганізацыяй. На яе ж ускладаецца абавязак па дастаўцы адміністрацыйна арыштаваных да месца работы и назад, забеспячэнні інструментамі, прыстасаваннямі, абсталяваннем і (пры неабходнасці) спецыяльнай вопраткай, абуткам і іншымі сродкамі індывідуальнай аховы, кантролю за выкананнем адміністрацыйна арыштаванымі працоўнай дысцыпліны і тэхнікі бяспекі, якасцю выканання імі работ.

СІТУАЦЫЯ

# Ці памілуе прэзідэнт?

*Следчы камітэт Беларусі завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да службовых асоб ЗАТ «Тэрабудінвест», які з'яўляўся забудоўшчыкам аднаго з самых вядомых даўгабудаў Мінска на вуліцы Прытыцкага.*

Дзейнічалі кіраўнікі кампаніі звышцынічна: людзі гадамі чакалі наваселля, а яны, выкарыстоўваючы падробленыя дакументы і пячаткі, заключалі дамовы з некалькімі асобамі на адну і тую ж кватэру. Грошы, атрыманыя ад падманутых дольшчыкаў, адмываліся праз расійскія фірмы. У выніку – сотні падманутых дольшчыкаў, мільёны долараў страт.

Калі афёра раскрылася – пасля шматлікіх зваротаў і пікетаў дольшчыкаў, афіцыйныя дольшчыкі атрымалі свае аплачаныя кватэры, падманутым далі магчымасць будавацца ў жыллёвых кааператывах на льготных умовах з 5%-ным крэдытам.

Асноўным фігурантам па справе праходзіў Барыс Руднеў, сузаснавальнік ЗАТ «Тэрабудінвест», які ў красавіку 2011 года быў асуджаны да 9 гадоў пазбаўлення волі.

Пазней справа была ўзбуджана яшчэ супраць сямі чалавек. У мінулым годзе была ўзята пад варту былы дырэктар «Тэрабудінвест» Юлія Гаеўская.

*«Расследаванне крымінальнай справы завершана, у якасці абвінавачаных праходзяць сем чалавек, у ліку якіх дырэктар і бухгалтар. Ім прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы і незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці»,* – паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік начальніка галоўнага Следчага ўпраўлення следчага камітэта Беларусі Сяргей Лішко.

Страты па гэтай крымінальнай справе складаюць больш за 3,8 мільярда рублёў. Трое з затрыманых пакрылі страту і звярнуліся да прэзідэнта з прашэннем аб памілаванні. Трое абвінавачаных па справе знаходзяцца ў вышуку. На маёмасць фігурантаў справы накладзены арышт на суму 200 мільярдаў рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

## Падоўжаны тэрмін арышту службовых асоб ААТ "Волынь"

*Колькасць пацярпелых дольшчыкаў даўгабуду ААТ «Волынь» павялічылася да 100.*

Яны, як вядома, нядаўна выйшлі з пікетамі да Палаца Незалежнасці, каб прыцягнуць увагу прэзідэнта да сваёй праблемы.

Трэба адзначыць, што крымінальная справа ў дачыненні да службовых асоб ААТ «Волынь» была ўзбуджана 13 красавіка 2015 года па артыкуле «Крадзеж». У рамках крымінальнай справы ўстаноўлена, што дольшчыкі перадалі службовым асобам ААТ «Волынь» больш за 35 мільярдаў беларускіх рублёў, і толькі каля 28 мільярдаў паступілі на рахункі.

*"Тэрміны следства і тэрміны ўтрымання пад вартай абвінавачаных падоўжаны да 13 кастрычніка бягучага года",* – сказаў намеснік начальніка следчага ўпраўлення УСК па Мінску Ілля Валозін. І дадаў: *"Таксама па факце незаконнага адчужэння памяшкання ўзбуджана крымінальная справа, арыштаваны яшчэ адзін фігурант".*

Ці дапаможа гэта падманутым дольшчыкам?

СКАНДАЛ

# Як дырэктар рудніка Аляксандр Гарбачоў бесцырымонна «кіруе» выбарчай кампаніяй у Салігорску

Першы сур'ёзны выбарчы скандал. Праваабаронцы звярнуліся ў пракуратуру і Следчы камітэт з заявай па факце прымусу да ўдзелу ў выбарах рабочых "Беларуськалія".

Скарга накіравана ў пракуратуру Мінскай вобласці, пракуратуру Салігорскага раёна і Салігорскі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь. Падставай для яе стала відэа, на якім зафіксавана, як кіраўніцтва "Беларуськалія" на нарадзе патрабавала ад кіраўнікоў падраздзяленняў пракантраляваць яўку рабочых на прэзідэнцкія выбары.

Нарада, як даведаліся праваабаронцы, праходзіла 9 верасня на першым рудніку ААТ "Беларуськалій". Называлася мерапрыемства – сустрэча кіраўніцтва прадпрыемства з інжынерна-тэхнічным персаналам – кіраўнікамі і начальнікамі ўсіх узроўняў гэтага рудаўпраўлення. Звычайных працоўных туды не паклікалі, затое прысутнічалі генеральны дырэктар Іван Галаваты, яго намеснік па ідэалагічнай працы і кадрах Анатоль Махлай і сам дырэктар першага рудніка Аляксандр Гарбачоў.

Падчас сустрэчы генеральны дырэктар распавёў прысутным пра крызісныя з'явы на сусветным калійным рынку і пра праблемы, якія могуць чакаць "Беларуськалій" у сувязі з цяжкасцямі ў эканоміках Бразіліі і КНР. Пасля гэтага Галаваты пакінуў мерапрыемства.

Пасля выступіў спадар Махлай. Тэма яго выступлення тычылася прэзідэнцкіх выбараў у краіне. Увесь сэнс прамовы зводзіўся да наступнага: мы жывём добра, у нашых суседзяў адны праблемы, а ў нас спакой і стабільнасць, нашай краіне не трэба ніякага іншага кіраўніка, вы павінны зрабіць свой выбар, і вы ўсе ведаеце, якім ён павінен быць. Фактычна на буйнейшым дзяржаўным прадпрыемстве краіны адміністрацыя ў працоўны час агітавала за Аляксандра Лукашэнку, хаця афіцыйна старт агіткампаніі Цэнтрвыбаркамам яшчэ абвешчаны не быў. Да таго ж варта адзначыць, што Анатоль Махлай з'яўляецца намеснікам старшыны Салігорскай раённай выбарчай камісіі.

Канчатковую кропку ў сустрэчы паставіў дырэктар першага рудаўпраўлення Аляксандр Гарбачоў, які да таго ж узначальвае адну з участковых выбарчых камісій у Салігорску. Пасля непрыхаванай агітацыі за дзеючую ўладу спадар Гарбачаў, груба парушаючы Выбарчы кодэкс, абвясціў усім прысутным аб уласным кантролі за яўкай усіх падначаленых яму работнікаў першага рудаўпраўлення на выбары:

– Што я ад вас запатрабую як кіраўнік і пастараюся максімальна гэта пракантраляваць, гэта яўка ў дзень выбараў на выбарчыя ўчасткі. Усе кіраўнікі будуць абавязаны ў дзень выбараў дакласці сваім вышэйшым кіраўнікам аб сваіх людзях, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі ці не прыйшлі. Для гэтага зусім няшмат патрэбна з улікам наяўнасці мабільнай сувязі. А яшчэ лепш – не даводзьце справу да апошняга дня, калі нехта не ўпэўнены, што гэта ў яго атрымаецца ў дзень выбараў, – заявіў Аляксандр Гарбачоў.

Праваабаронцы звяртаюць увагу, што выбары з'яўляюцца свабоднымі і кожны асабіста выбірае – браць у іх удзел ці не. Такое права выбаршчыка замацавана як у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, так і ў Выбарчым кодэксе.

Заклікі дырэктара першага рудніка Аляксандра Гарбачова да кіраўнікоў прадпрыемства забяспечыць яўку рабочых на выбарчыя ўчасткі, а таксама пракантраляваць усіх падначаленых і далажыць пра тых, хто не прыйшоў, расцэньваюцца праваабаронцамі як злачынства супраць канстытуцыйных правоў і свабод чалавека і грамадзяніна.

*"У дадзеным выпадку спосабам уздзеяння на свабоду волевыяўлення грамадзян пры ажыццяўленні імі выбарчых правоў стала распараджэнне вышэйстаячага кіраўніка, аддадзенае падначаленым асобам, забяспечыць яўку сваіх работнікаў на ўчасткі для галасавання, што з'яўляецца распараджэннем прымусіць работнікаў да ўдзелу ў галасаванні. Таксама гэта азначае абавязак кіраўнікоў:*

*– прысутнічаць, у парушэнне закона, на ўчастках для галасавання альбо атрымліваць ад выбарчых камісій звесткі аб асобах, якія бралі ўдзел у галасаванні;*

*– прымушаць сваіх працаўнікоў браць удзел у датэрміновым галасаванні.*

*Такім чынам, акрамя здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў, азначаная службовая асоба падбухторвала іншых службовых асоб здзяйсняць аналагічныя па складзе правапарушэнні",* – адзначыў прадстаўнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» юрыст Валянцін Стэфановіч.

Праваабаронцы лічаць такія дзеянні кіраўніцтва, у прыватнасці А.Гарбачова, перавышэннем улады ці службовых паўнамоцтваў і просяць пракуратуру Мінскай вобласці, а таксама пракуратуру Салігорскага раёна і Салігорскі раённы аддзел Следчага камітэта правесці праверку і даць прававую ацэнку дзеянням дырэктара першага рудаўпраўлення.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

КЛІНЧ

# Жахлівыя прывіды Давыдзькі





Не, такога адыёзнага кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі, як Генадзь Давыдзька, у Беларусі не было. Замест таго, каб займацца творчымі працэсамі, думаць, як павысіць прафесійны ўзровень падначаленых і таго, што яны робяць, ён не-не дый уляпаецца ў чарговы скандал. Гэта ж трэба падчас мінулага выпуску "Клуба рэдактараў" абазваць футбольных фанатаў юнымі нацыстамі! А заадно не прышый кабыле хвост узгадаць газеты "Наша Ніва" і "Народная Воля".

Цытуем: *«Што гэта за братанні ўкраінскіх і беларускіх фанатаў? Вось тут у «Нашай Ніве» і «Народнай Волі» гэтыя ружовыя соплі пра матч у Львове. Што гэта за салідарнасць беларусаў і супраць каго? Што ім зрабіла Расія?*

*Мяне зараз цікавіць гэтая маленькая частка людзей. Што гэтыя юныя манкурты маюць супраць Расіі, супраць сённяшняй расійскай моладзі, супраць культуры расійскай? Што, на нас пруць іх танкі? Чаму нашу краіну прадстаўляюць юныя нацысты? Куды глядзіць Беларуская федэрацыя футбола?»*

Вось такімі цынічна-абразлівымі словамі спадар Давыдзька абурыў тысячы людзей. Інтэрнэт не сціхае ўжо каторы дзень. Нельга зразумець, як дзяржаўнае тэлебачанне можа ўзначальваць чалавек, якому не даспадобы тое, што беларусы выказалі падтрымку брацкаму ўкраінскаму народу. Які вось так, мімаходзь, можа абазваць "нацыстамі" тысячы патрыётаў. Многія задаюцца пытаннем: "На якую краіну працуе гэты чалавек? У чыіх інтарэсах ён працуе? У інтарэсах Расіі ці ў інтарэсах Беларусі?"

Інтэрнэт-жарсці могуць дайсці і да судовага разгляду. Ніжэй мы публікуем ліст заўзятара зборнай Беларусі па футболе Андрэя Валькоўскага.

## Патрабую прынесці публічныя прабачэнні

### Ліст Давыдзьку Г.Б., старшыні Белтэлерадыёкампаніі



Паважаны спадар старшыня, з вялікай цікавасцю прачытаў передрук Вашых слоў з перадачы «Клуб рэдактараў», якая выйшла ў эфір на тэлеканале «Беларусь-1» 13 верасня. Менавіта з цікавасцю. Не з абурэннем, хаця гэта, можа, і было б больш адэкватнай рэакцыяй на Вашы словы.

Не са здзіўленнем, бо жамчужная калекцыя выказванняў на такім шанаваным і папулярным сярод простага народа канале, як «Беларусь-1», ужо даўно не ў стане нечым здзівіць.

Але, дальбог, пакінем у супакоі маё абурэнне і здзіўленне і вернемся да галоўнага, а менавіта да Вашых слоў.

У вышэйзгаданай перадачы Вы назвалі беларускіх заўзятараў нашай зборнай «юнымі нацыстамі». Не будзем засяроджваць увагу на ўзроставым пытанні, хаця калі б шаноўны спадар старшыня асабіста наведаўся на стадыён на матч зборных Украіны і Беларусі, убачыў бы на ўласныя вочы не толькі ўзроставы, але і гендарны разрэз беларускага грамадства.

Напрыклад, побач са мной, не «юным» ужо, 40-гадовым чалавекам, стаялі дзве маладыя дзяўчыны. Можа, у хатнім зацішшы яны і заядлыя «нацысткі», але з іх паводзінаў на стадыёне гэта ніяк не вынікала.

Прааналізуем галоўнае слова з фразы, якое ўражвае маштабам абвінавачвання.

Паважаны спадар Давыдзька, патлумачце, калі ласка, на якой падставе і на якіх фактах Вы публічна назвалі беларускіх заўзятараў у Львове нацыстамі?

Наколькі я разумею, у Вас ёсць неаспрэчныя доказы ці то прыналежнасці наведвальнікаў гасцявога сектара да фармальных ці нефармальных нацысцкіх груповак, ці то ўжывання падчас матча або перад ім ці пасля яго нацысцкай сімволікі, ці то публічных нацысцкіх выкрыкаў. Было б надзвычай стасоўна прадставіць гэтыя доказы шырокай публіцы.

Са свайго боку, перабіраю ў памяці ўзрушальныя моманты еднасці беларускіх і ўкраінскіх заўзятараў футбола падчас матча ў Львове і не магу зразумець, што ж выклікала ў Вас такую рэакцыю.

Не магу сабе ўявіць, што, напрыклад, Вы маглі б назваць бел-чырвона-белы, некалі дзяржаўны, сцяг – нацысцкім. Сцяг, пад якім прымаў прысягу на вернасць Беларускаму Народу першы прэзідэнт Беларусі спадар Аляксандр Лукашэнка.

Цяжка сабе ўявіць і тое, што Вы маглі б назваць нацысцкім сфармуляваны Янкам Купалам лозунг «Жыве Беларусь!». Гэта проста не памяшчалася б у галаве, калі б гасцявы сектар у Львове, фан-сектар зборнай Украіны і ўвесь 33-тысячны львоўскі стадыён хацелі б, каб Беларусь жыла, а Вы мелі б іншае меркаванне на гэты конт.

Не хочацца верыць і ў тое, што сучасны адукаваны чалавек можа не ведаць, што лозунг «Слава Украіне!» сягае вытокаў аспірацый украінскай незалежнасці ў новай гісторыі і звязваць яго з нацызмам могуць толькі прапагандысты тэндэнцыйных тэлеперадач.

Яшчэ менш хочацца верыць у тое, што Вы ўсур'ёз можаце лічыць песні беларускага гурта «Ляпіс Трубяцкі», «Тры чарапахі» NRM, народную «Купалінку» ці тыповыя беларускія фанацкія крычалкі ў падтрымку зборнай нацысцкай творчасцю. Гэта было б ужо ўвогуле па-за межамі – прынамсі майго ўласнага разумення. Ужываючы футбольную тэрміналогію, па-за гульнёй...

Быў яшчэ банер з простым, але адназначным салідарным зместам «Трымайцеся, браты!». Хацелася б адзначыць, паважаны спадар Давыдзька, што беларускія аматары футбола выказалі сваю салідарнасць украінскаму народу ў рэчышчы агульнага стаўлення Беларусі да няпростай сітуацыі ва Украіне, якая выражалася ў тым ліку і афіцыйна кіраўніком беларускай дзяржавы на сустрэчы ў Кіеве напрыканцы 2014 года. Цытую: *«Для нас это не игра. Не только потому, что товарооборот, а потому, что мы соседи, мы рядом живем, мы родные люди».*

Звярніце ўвагу, спадар старшыня, мы з украінцамі – родныя людзі. Няўжо Вы лічыце нацыстамі тых, хто згодны з гэтым тэзісам Аляксандра Лукашэнкі?..

Паважаны Генадзь Браніслававіч, нягледзячы на Вашы спробы адбіць ахвоту ездзіць на матчы нашай каманды і падтрымліваць яе, мы будзем гэта рабіць.

Будзем ездзіць. І будзем спяваць. І будзем біць новыя рэкорды, так як цяпер, у Львове, пабілі выязны рэкорд на гульнях зборнай Беларусі. А Вам як старшыні Белтэлерадыёкампаніі, можа, не залішне было б падумаць пра тое, што місіяй і задачай публічнага тэлебачання ёсць прадстаўленне розных разумовых і светапоглядных плыняў, а не барацьба з імі і не іх неапраўданая дыскрэдытацыя.

І на заканчэнне. Са свайго боку, настойліва патрабую прынесці публічныя прабачэнні беларускім аматарам футбола, якія 5 верасня 2015 года прысутнічалі на адборачным матчы Еўра-2016 паміж зборнымі Украіны і Беларусі ў Львове, – за Вашы несправядлівыя і абразлівыя абвінавачванні.

У іншым выпадку Вы не пакінеце мне выбару і поля для манеўру, і я буду вымушаны ўзяць на сябе ролю арганізатара масавых іскаў у абарону годнасці ў рамках беларускай судовай сістэмы.

У любым выпадку прынамсі адзін іск будзе абавязкова.

**З павагай – заўзятар зборнай Беларусі па футболе**

**Андрэй ВАЛЬКОЎСКІ.**

ЗАДНІ ХОД

## «Ну, гэта я пагарачыўся...»

*«Пра гэтых фанатаў, заўзятараў футбольных... Мне непрыемна, што там непаразуменні ёсць. Нібыта пакрыўдзіліся на мяне, што я назваў іх нацыстамі... Ну, гэта я пагарачыўся. Бадай што і прабачэння трэба будзе папрасіць»,* – сказаў Генадзь Давыдзька ў эфіры "Еўрарадыё".

Нічога сабе пагарачыўся! Абазваць нацыстамі тых, для каго Беларусь не пусты гук, – гэта не што іншае, як плюнуць у душы тысячам, а можа, нават мільёнам людзей. Такое без пакарання не абыходзіцца.

У ТЭМУ

## А Пётр Парашэнка падзякаваў

Нагадаем, што пасля матча ў Львове прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка падзякаваў беларускім заўзятарам. Допіс ён змясціў у сацыяльных сетках, у прыватнасці, у "Фэйсбуку".

*«Віншую з перамогай!*

*Дзякуй футбалістам за цікавую гульню і заўзятарам абедзвюх зборных за неверагодна цёплую і сяброўскую атмасферу на стадыёне. Слава Украіне! Жыве Беларусь!»* – напісаў кіраўнік Украіны.

ЮБИЛЕЙ

## Андрей БАСТУНЕЦ:

# «Тренинги у нас ведут звездные журналисты»



*ОО «Белорусская ассоциация журналистов» на днях отметила 20-летний юбилей. Председатель ОО «БАЖ» Андрей Бастунец рассказал «Народной Воле» не только о том, каким хотел бы видеть БАЖ в будущем.*

– 20 лет – серьезный возраст, – *говорит Андрей Бастунец.* – Многие демократические организации, создававшиеся в одно время с БАЖем, просто не дожили до сегодняшних дней.

Конечно, Белорусская ассоциация журналистов изменилась. Когда она создавалась, ситуация в стране была совершенно другая. Мы как раз недавно с Жанной Литвиной на эту тему разговаривали: никто тогда даже толком не представлял, чем будет заниматься организация. Напомню, что на первом этапе членами БАЖа могли быть юридические лица, у нас были целые редакции членами БАЖа!

Раньше деятельность в БАЖе была просто дополнительной общественной нагрузкой, а сейчас у нас уже есть люди, которые работают на постоянной основе. И я рад, что появился офис, который может обеспечить работу организации на приемлемом уровне.

Любая система, которая не развивается, погибает, поэтому я прекрасно понимаю, что нам нужно двигаться дальше.

**– Новые люди охотно приходят в БАЖ?**

– За эти годы бажевцев стало в 30 раз больше! ОО «БАЖ» оказывает правовую поддержку своим членам. Это одна из причин, почему люди к нам обращаются и охотно вступают в наши ряды. Опять же, мы предоставляем и другие сервисы – образовательные программы например. Тренинги у нас ведут звездные журналисты, причем не только белорусские. Для начинающих журналистов это прекрасная возможность узнать нюансы профессии.

Замечу, что люди не только приходят в БАЖ, но и уходят от нас. Кто-то теряет связь с профессией, у кого-то меняется мировоззрение. В последние годы количество членов ОО «БАЖ» колеблется около 1200.

**– Часто ли Белорусской ассоциации журналистов сегодня говорят спасибо?**

– Конечно, говорят! Но если и забывают, то это не имеет никакого значения. Мы все равно будем выполнять свои функции. Я очень рад, что в последнее время снизилось количество задержаний журналистов. Думаю, свою лепту в это дело внес и БАЖ ...

**– Тьфу-тьфу! Как говорится, не перед выборами будет сказано... Какие главные задачи сегодня стоят перед ОО «БАЖ»?**

– Самый больной вопрос – это, конечно, законодательство. Пока развитие законодательства о медиа в Беларуси целенаправленно шло только в сторону ужесточения. Поэтому сверхзадача номер один – изменить эту тенденцию. Экономические условия деятельности газет – мы очень долго бились с этой темой. «Белпочта» по-прежнему отказывается включать некоторые издания в подписные каталоги. И я считаю, это одна из тем, на которую надо обратить серьезное внимание. Полагаю, нужно вернуться к судебному оспариванию этих дел. Пожалуй, это самое главное, на что сейчас я обратил бы внимание.

**– Министерство информации прислало поздравительную телеграмму в БАЖ?**

– Нет. За последние годы наши отношения с Министерством информации можно назвать относительно мирным сосуществованием. На наши обращения мы получаем стандартные отписки. Несмотря на обещания привлечь нас к разработке закона о СМИ, работа над ним велась за закрытыми дверями до самого последнего момента – мы узнали о нем лишь тогда, когда он уже был в Палате представителей (у меня подозрение, что и депутаты тогда же о нем узнали). Одним словом, сложно назвать конструктивными отношения ОО «БАЖ» и Министерства информации. Мы, конечно, и дальше будем обращаться в Мининформ, но никакого стремления к диалогу со стороны этого органа пока не видно.

**– Андрей, каким бы вам хотелось видеть БАЖ лет через пять-десять?**

– Я хотел бы, чтобы Белорусская ассоциация журналистов становилась профсоюзной организацией. Чтобы в поле нашего зрения находились в первую очередь взаимоотношения редакции и журналиста, а не бесконечное противостояние с органами власти и определенными должностными лицами. Мне очень этого хотелось бы. Но что-то мне подсказывает, что в ближайшие пять лет это вряд ли случится...

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ВЕРАСНЯ 2015 г.

ВЯРТАННЕ

# Вячаслаў СІЎЧЫК: «Заклікаючы людзей да дзеянняў, самому трэба прадпрымаць нейкія крокі»

Следам за экс-кандыдатам у прэзідэнты 2010 года Алесем Міхалевічам у Беларусь пасля пяці гадоў эміграцыі вярнуўся з Украіны вядомы апазіцыянер і грамадскі актывіст Вячаслаў Сіўчык.

Чаму палітык вырашыў вярнуцца ў Беларусь менавіта зараз? І чым ён плануе займацца ў Беларусі?

– Апошнім часам асабіста я і прадстаўнікі створанага ва Украіне руху салідарнасці "Разам" выступалі за фарміраванне ў Беларусі ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. І тады я казаў, што вярнуся...

**– Значыць, менавіта вызваленне Мікалая Статкевіча паўплывала на ваша рашэнне аб вяртанні?**

– Маё вяртанне наклалася на сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі, звязаную з вызваленнем палітвязняў. Але я вярнуўся б у любым выпадку, нягледзячы ні на што.

Чаму я не вярнуўся раней? Справа ў тым, што за межамі Беларусі існуе страшны дэфіцыт акцый у падтрымку незалежнасці і волі Беларусі. І гэта нягледзячы на тое, што, па розных ацэнках, за межамі нашай Бацькаўшчыны жыве прыкладна мільён беларусаў... Увесь гэты час я быў заняты ў тым ліку наладжваннем акцый у падтрымку незалежнасці Беларусі ва Украіне. Зараз, умоўна кажучы, тое, што я стварыў, ёсць на каго пакінуць, і ў мяне з'явілася магчымасць вярнуцца.

**– Чым плануеце заняцца ў Беларусі?**

– Тым жа, чым і займаўся да ад'езду з краіны на працягу 25 гадоў, – арганізацыяй і ўдзелам у акцыях, скіраваных на падтрымку сапраўды незалежнай Беларусі. Заклікаючы людзей да дзеянняў, самому трэба прадпрымаць нейкія крокі.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ЧУЛІ?

# Падкарэкціравалі...

*Міністэрства аховы здароўя скараціла пералік замежных тавараў, якія падлягаюць дзяржаўнай санітарна-гігіенічнай экспертызе.*

На сайце Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя апублікавана змененая пастанова намесніка міністра аховы здароўя – галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі Ігара Гаеўскага «Аб зацвярджэнні пераліку прадукцыі замежнай вытворчасці, якая падлягае дзяржаўнай санітарна-гігіенічнай экспертызе».

З пераліку, у прыватнасці, выдалены мэбля, бытавыя электрапрыборы, прызначаныя для кантакту з ежай, халадзільнікі і маразільнікі, а таксама канцылярскія прылады для школьнікаў.

На нядаўняй прэс-канферэнцыі Ігар Гаеўскі заявіў, што апублікаваны 10 верасня пералік прадукцыі, якая падлягае экспертызе, "дастаткова невялікі, але адкрыты" і з часам можа быць як пашыраны, так і скарочаны.

Як вядома, прадстаўнікі бізнесу сцвярджаюць, што новыя ўмовы надзвычай ускладняюць імпарт тавараў у Беларусь.

ЭКОНОМИКА

# «Великий камень» в огород

*Китайская компания может потеснить отечественного производителя на рынках сбыта пивоваренного солода.*

В Китайско-Белорусском индустриальном парке «Великий камень», который строится под Смолевичами в 25 километрах от Минска, появилась еще одна компания – «Цзюйсинь Солод Технология».

Как стало известно, китайский инвестор планирует построить в Минской области предприятие по переработке продуктов ячменя, в том числе завод по выпуску пивоваренного солода мощностью 300 тысяч тонн в год.

Трудно оценить, насколько это производство соответствует инновационной концепции индустриального парка. Но совершенно очевидно, что в «Великом камне» появится мощный конкурент отечественному ОАО «Белсолод», которое находится в городе Иваново Брестской области. Проектная мощность белорусского предприятия составляет 130 тысяч тонн солода в год, что в 2,5 раза меньше, чем у китайских конкурентов.

Ивановский завод сейчас полностью закрывает потребности белорусского рынка и еще 40% продукции отправляет за рубеж. По итогам первого полугодия 2015 года, например, было экспортировано 41,3 тыс. тонн (на 3,6% больше, чем в аналогичный период 2014 года) на сумму 12,9 млн долларов. Основные покупатели белорусского солода – страны СНГ. Крупнейшие поставки осуществляются в Россию, Узбекистан и Казахстан. Также в этом году наш солод поставлялся во Вьетнам, Канаду, Грузию, Лаос. В 2015 году относительно крупная партия была отгружена в США.

Примечательно, что компания «Цзюйсинь Солод Технология» появилась в Беларуси после недавнего визита Александра Лукашенко в Пекин на празднование 70-летия окончания Второй мировой войны.

В Китайско-белорусском индустриальном парке «Великий камень» эта компания стала восьмым резидентом.

**Николай АДАШКЕВИЧ.**

НУ І НУ!

# Ад 150 тысяч рублёў да 100 долараў

*Выкладчыка мінскага каледжа абвінавачваюць у атрыманні хабару ад навучэнцаў за добрыя адзнакі. Крымінальную справу ўжо перадалі пракурору для накіравання ў суд.*

Як паведамляе прэс-служба Следчага камітэта, 27-гадовы выкладчык спецыяльных дысцыплін аднаго з мінскіх каледжаў на працягу паўтара года браў у навучэнцаў хабары. Мужчына вымагаў у навучэнцаў грошы за выстаўленне станоўчых адзнак пры здачы экзаменаў і за лабараторна-практычныя заняткі. Падчас следства стала вядома, што больш за дзясятак навучэнцаў рэгулярна перадавалі абвінавачанаму і беларускія рублі, і валюту – ад 150 тысяч рублёў да 100 долараў. Сума залежала ад складанасці матэрыялу, які выкладаўся, наведвальнасці заняткаў і колькасці ацэначных балаў. Выкладчыка затрымалі ў чэрвені падчас атрымання хабару ад групы навучэнцаў – больш за 3 млн 800 тысяч рублёў. Мужчына знаходзіцца пад вартай, яго маёмасць арыштавана. За атрыманне хабару паўторна шляхам вымагальніцтва яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Эмігрант

*У свой час крымінальная справа ў дачыненні да беларускіх маладзёжных актывістаў Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча стала адной з першых у гісторыі незалежнай Беларусі.*
*На дварэ стаяў 1997 год, у краіне, па сутнасці, толькі пачала замацоўвацца ўлада маладога прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У Стоўбцах на сценах мясцовага райвыканкама з'явіліся графіці "Жыве Беларусь!" і "Пазьняк – наш прэзідэнт". Акрамя таго, афіцыйны чырвона-зялёны сцяг над будынкам быў заменены на бел-чырвона-белы.*
*Аўтараў "крамолы" Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча знайшлі даволі хутка.*
*Затрымалі, асудзілі.*
*З той пары, як кажуць, шмат вады сплыло. Сёння Аляксей Шыдлоўскі жыве ў Чэхіі і вяртацца ў Беларусь не збіраецца. Сцвярджае, што эміграцыя была вымушанай і жыццё само расставіла ўсё па сваіх месцах...*

## "Пакаяльны ліст на імя Лукашэнкі я парваў і змыў у "парашу"...

**– Аляксей, давай распачнём размову з падзей амаль 20-гадовай даўніны. Навошта табе была патрэбна тая "пісаніна" на сценах райвыканкама? Каму і што ты збіраўся даказаць? Ці не шкадуеш аб зробленым?**

– Тая даўняя справа шмат у чым змяніла маё жыццё. Дакладней, змяніла кардынальна. Але я ніводнага дня не шкадаваў ні аб учынках, за якія апынуўся пад палітычным пераследам, ні аб наступствах.

Можна сказаць, што ў тыя гады першыя падобныя справы паказвалі сапраўдны твар рэжыму, які толькі ўсталёўваўся ў Беларусі.

Калі мы з Вадзімам Лабковічам і астатнімі хлопцамі спрабавалі праз графіці давесці да людзей нашы ідэі і думкі, то кіраваліся ў пэўным сэнсе нейкім маладзёжным ідэалізмам. Але ідэалізм гэты быў шчыры.

Да нас палітычнымі графіці размалёўваліся дзясяткі гарадоў Беларусі, але мы першыя, хто трапіў "пад раздачу". "Наверсе" было вырашана арганізаваць паказальны працэс – маўляў, каб іншым была навука. Махавік рэпрэсій пачынаў раскручвацца. Мне далі паўтара года калоніі ўзмоцненага рэжыму і, нібы здзекаваючыся, выпусцілі па амністыі за два дні да заканчэння тэрміну...

**– Ведаю, што следчы, які вёў тваю справу, зрабіў неблагую кар'еру...**

– Гэта як паглядзець... Маю справу вёў следчы Васіль Папін. І справа тая была шыта белымі ніткамі. У выніку я паехаў у турму, а ён адправіўся на павышэнне – стаў працаваць у Мінскай гарадской пракуратуры.

З Васілём Папіным мы бачыліся яшчэ аднойчы – калі я выйшаў на волю і забіраў у яго мае канфіскаваныя турэмныя дзённікі. Ён выглядаў як чалавек, цалкам задаволены жыццём. Наступным разам я ўбачыў яго прозвішча ў СМІ ў сувязі з рэзананснай справай аб "жывым шчыце". Калі даішнікі не знайшлі нічога лепшага, як зладзіць ланцуг з машын, у якіх знаходзіліся людзі, каб затрымаць парушальніка. Папін вёў і тую справу. А потым я даведаўся, што ён застрэліўся ў працоўным кабінеце з табельнай зброі... Пра нябожчыка альбо добра, альбо нічога, таму магу сказаць толькі тое, што, напэўна, нейкія вышэйшыя сілы над намі ёсць...

**– З часу тваёй крымінальнай справы пераслед палітычных актывістаў у Беларусі быў "пастаўлены на паток". Многіх з іх вымусілі прызнаць сваю віну і напісаць ліст на імя кіраўніка дзяржавы. З табой было нешта падобнае?**

– Так. Падчас чакання судовага разбіральніцтва ў ізалятары часовага ўтрымання спачатку ў Стоўбцах, а потым у Жодзіне да мяне падсаджвалі "выпадковых" сакамернікаў. Тыя падказвалі: маўляў, напішы прашэнне аб памілаванні – гэта адзіны спосаб выйсці з турмы. Не верце нікому, хто скажа, што ў турме лёгка. Турма цісне, турма ламае! І я, 18-гадовы, зламаўся. Пасядзеў, паплакаў, напісаў – па-дзіцячы наіўна, нешта кшталту "я больш так не буду". Але ў апошні момант перадумаў. Парваў "пакаянне" і спусціў яго ў "парашу", чым выклікаў адабрэнне большасці сакамернікаў. Пасля гэтага сядзелася значна лягчэй.

## "Сярод апазіцыі былі і ёсць сексоты..."

**– Нягледзячы на турэмны тэрмін, ты не кінуў палітычнай дзейнасці і пазней стаў адным з каардынатараў маладзёжнага руху "Зубр", які ўзнік у 2001 годзе, але да наступных прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў 2006-м, "не дажыў". Скончыліся сродкі?**

– Не ў гэтым справа, фінансаванне пры жаданні можна было б знайсці.

"Зубр" у свой час часткова ствараўся з хлопцаў і дзяўчат, якія пакінулі "Малады фронт" пасля з'езда, на якім было вырашана весці арганізацыю па рэлігійна-кансерватыўным шляху, часткова з новай моладзі. Ідэя руху была не новай, бо падобныя структуры паспяхова паказалі сябе ў Сербіі ("Отпор"), у Грузіі ("Кмара") і гэтак далей. Аб'ядноўвала нас ідэя еўрапейскай будучыні Беларусі.

Усе нашы тагачасныя акцыі: графіці, улёткі, удзел у масавых акцыях – былі толькі цаглінамі пад галоўным – зменай улады праз інструмент негвалтоўнага супраціву. Але ў 2001 годзе палітыкі, якія прадстаўлялі апазіцыю: Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш і іншыя – аказаліся негатовыя змагацца за перамогу да канца і тым самым падставілі ўсіх, хто іх падтрымліваў.

Пасля паразы на выбарах 2001 года нехта з сябраў "Зубра" з'ехаў за мяжу, нехта вырашыў закончыць з актыўнай палітычнай дзейнасцю, але вырашальным фактарам для самароспуску стала з'яўленне ў Беларусі закона, якім прадугледжвалася адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Падстаўляцца пад крымінальныя справы было неразумна, тым больш што ў свой час "зубраўцы" і так не вылазілі з "сутак" па адміністрацыйных правапарушэннях. Я і сам тады атрымаў чарговы прысуд – два гады папраўчых работ, якія "адбыў" на працы ў "Нашай Ніве".

**– У беларускіх апазіцыйных колах, асабліва перад выбарамі, дагэтуль модна шукаць стукачоў ці сексотаў. Пра "Зубр" таксама такія размовы вяліся...**

– Сярод беларускай апазіцыі заўжды былі і, думаю, застаюцца стукачы. У любой краіне з таталітарным рэжымам іх procent... 

– Сярод беларускай апазіцыі заўжды былі і, думаю, застаюцца стукачы. У любой краіне з таталітарным рэжымам іх працьма. Некаторыя актывісты прызнаваліся мне, што іх пад прымусам і пагрозамі завербавалі, выбачаліся, што "стукалі"... Гэта толькі тыя, хто знайшоў у сабе мужнасць прызнацца. А колькі яшчэ "незасвечаных" – аднаму Богу вядома. Таму я з нецярплівасцю чакаю дня, калі адчыняцца архівы беларускіх спецслужбаў... Упэўнены: мы даведаемся шмат цікавага.

## "Я не стаў на чужыне сваім..."

**– З Беларусі ты з'ехаў у 2007-м, уцякаў ад магчымага крымінальнага пераследу. Што перашкаджае вярнуцца зараз?**

– У 2007 годзе ў мяне не было іншага выйсця, я літаральна не вылазіў з "сутак". Абвінавачванні, паводле якіх мяне "закрывалі", смешныя. Аднойчы мне далі 15 сутак за тое, што я нібыта лаяўся матам ва ўласнай кватэры, а міліцыянты, праходзячы выпадкова па пад'ездзе, пачулі гэта.

Скажу шчыра: нервы паступова пачалі здаваць. У той год я якраз толькі ажаніўся і больш часу планаваў праводзіць разам з жонкай, а ніяк не на Акрэсціна... Правакавалі мяне пастаянна. У выніку ў снежні таго года ў адной з мінскіх крам адбылася сварка з-за партрэта Лукашэнкі, які я парваў. Міліцыя на месцы здарэння з'явілася імгненна – хвіліны праз дзве (я дагэтуль упэўнены, што гэта была загадзя спланаваная правакацыя). Мне пагражалі новай "крыміналкай" за абразу Лукашэнкі, пры гэтым намякнуўшы, што ў мяне ёсць пару дзён, каб знікнуць з краіны.

Што б на маім месцы выбраў ты? Вось і я сабраў валізку і рушыў праз Маскву ў Кіеў. Пасля была Чэхія, якая мяне ў выніку прыняла разам з жонкай.

Да нараджэння сына Уладзіслава ў 2011 годзе я амаль штодня думаў аб вяртанні ў Беларусь. Пасля гэтыя думкі пачалі паціху знікаць. Усё ж істотней даць дзіцёнку магчымасць жыць і развівацца ў нармальнай краіне, не перагружанай ідэалогіяй і пошукам ворагаў. Сын з трох гадоў у дзіцячым садочку. Там ён вучыць англійскую мову. Таксама цудоўна шчабеча дома па-беларуску, а з сябрукамі – па-чэшску. Пры гэтым не ведае ніводнага рускага слова. Ну куды яму ў наш "русский мир" з "паняццямі", кадэбэшнікамі і "гопнікамі"?

**– Як склалася тваё жыццё ў Празе?**

– Пачынаць з нуля, з нічога было неверагодна складана. Калі мы з жонкай прыехалі, грошы, якія былі, растаялі вельмі хутка – мы заплацілі за кватэру за некалькі месяцаў наперад. Далей была пустата. Чэшскай мовы не ведалі, таму даводзілася перабівацца чарнавой работай на фабрыках і камбінатах. Пасля дзякуючы веданню англійскай мовы атрымалася зачапіцца ў турбізнесе, дзе мы і працуем па сённяшні дзень.

**– Ці можаш з упэўненасцю сказаць, што Еўропа чакае мігрантаў?**

– Безумоўна. Але высокакваліфікаваных – медыкаў, вучоных, эканамістаў і гэтак далей. Чэхія не тая краіна, якую можна назваць сацыяльным раем, у які імкнуцца цяперашнія хвалі сірыйскіх уцекачоў. Тым не менш падтрымку нам з жонкай дзяржава аказвала і аказвае значную.

**– Напрыклад?**

– Мы ўдзельнічаем у 8-гадовай праграме для іншаземцаў. Акрамя курсаў чэшскай мовы і культуры нам часткова аплачваюць здымнае жыллё. Мы маем бясплатнага адваката...

Але, скажу шчыра, у адрозненне ад сына, якому зараз чатыры гады, я сябе так да канца і не магу адчуць тут сваім. Заўсёды буду чужым.

**– Не люблю лезці ў чужую кішэню і лічыць чужыя грошы, але ўсё ж пацікаўлюся: колькі складае даход вашай сям'і штомесяц? На што хапае гэтых грошай?**

– Даходы ў турбізнесе розныя, у залежнасці ад сезона. У лічбах называць не буду, тут гэта не прынята.

Скажу толькі, што жывём мы ў вялікай двухпакаёўцы з кухняй у 25 метраў у цэнтры Прагі. Арэнда каштуе прыкладна 500 долараў у месяц.

Што да харчавання, то прадукты тут таннейшыя, чым у Беларусі. Я ўжо не кажу пра рэстараны, дзе вячэра на дваіх каштуе 20 долараў. Сярэдні заробак па Чэхіі – 1100 долараў да выплаты падаткаў. Мінімалка з Новага года будзе 400 долараў. Пенсіі ў раёне 500 долараў. Вось і лічыце, дзе пенсіянеры жывуць лепей – у сацыяльна арыентаванай Беларусі ці тут, у Чэхіі...

**– Але ж, напрыклад, Алесь Міхалевіч вярнуўся. Днямі скончылася "эміграцыя" Вячаслава Сіўчыка...**

– Безумоўна, па радзіме я сумую. За час вымушанай эміграцыі ў Беларусі памерла шмат родных і блізкіх мне людзей, на магілы якіх я вельмі хачу трапіць. Але пакуль гэта немагчыма. І калі я і дабяруся да роднай старонкі, то найхутчэй ужо ў якасці старога эмігранта...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРЫМІНАЛ

# Вучылі даваць хабар

Работнікі прыватных аўташкол прыдумалі, як «дапамагаць» сваім курсантам у здачы практычнага экзамена ў ДАІ і зарабіць на гэтым грошы.

Як паведамілі ў Следчым камітэце, вясной бягучага года міліцыя затрымала сямёра падазроных, які завалодалі грашыма навучэнцаў прыватных аўташкол. Сярод затрыманых – намеснік дырэктара адной з аўташкол. Так бы мовіць, настаўнікі падбухторвалі сваіх курсантаў да дачы хабару інспектарам ДАІ, але, калі атрымлівалі грошы, прысвойвалі іх сабе.

Схема была такая: яны казалі, што ёсць дамоўленасць са службовымі асобамі міжраённага экзаменацыйнага аддзела ДАІ, і схілялі навучэнцаў да перадачы апошнім хабараў. "Грошы зламыснікі прысвойвалі і распараджаліся імі па сваім меркаванні», – праінфармавалі ў УСК.

Следчыя ўстанавілі 15 падобных выпадкаў, у выніку якіх абвінавачаныя завалодалі грашыма на суму 4200 долараў. Іх дзеянні кваліфікаваны як падбухторванне да дачы хабару і махлярства.

Двое абвінавачаных з моманту затрымання ўтрымліваюцца пад вартай, да астатніх прыменена мера стрымання ў выглядзе абавязацельства аб яўцы і належных паводзінах.

Крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

РЕГИСТРАТУРА

# Цены на лекарства рекомендовано не повышать. Пока

Рост цен на белорусские лекарства приостановлен за счет внутренних резервов зарубежных субстанций на предприятиях, заявил замминистра здравоохранения, директор департамента фармацевтической промышленности Валерий Шевчук.

Таким образом он прокомментировал регулирование цен на отечественные лекарства в условиях ослабления курса белорусского рубля и потребности предприятий в зарубежных субстанциях, которые закупаются за иностранную валюту.

*"Мы притормозили рост цен за счет внутренних резервов. Покупательная способность несколько понизилась, поэтому заводам, подчеркиваю, рекомендовано не повышать цены. Они, в принципе, и не повышают"*, – сказал он.

На вопрос, что произойдет, когда резервы субстанций закончатся, Валерий Шевчук ответил: *«Тогда и будем думать»*.

АЛЬТЕРНАТИВА

# Ветряк под Новогрудком

*Сколько ветряков сделают Новогрудок энергонезависимым? Как сегодня работает и обслуживается ветряная установка? Чем она так привлекает местных жителей? Корреспондент «Народной Воли» побывал на самой большой ветряной станции в Беларуси.*

## Превышая ожидания

Ветряк расположен на Новогрудской возвышенности. Это второе по высоте место в стране – 324 метра над уровнем моря (самая высокая точка – гора Дзержинская).

Работу по установке ветряной станции в 2011 году начала китайская компания «HEAG», выиграв тендер на строительство. Высота башни – 80 метров. Чтобы собрать конструкцию весом 208 тонн, специалистам пришлось заказывать башенный кран из России.

– *Первое время были небольшие проблемы из-за отсутствия опыта в работе с таким оборудованием,* – рассказал «Народной Воле» начальник службы подстанций Лидских электросетей Сергей Кумпяк. – *Сейчас работой ветряка мы довольны. Функционирует он круглосуточно и в автоматическом режиме.*

По словам Сергей Кумпяка, ветряная установка вырабатывает даже больше энергии, чем было задумано. Серьезных проблем новогрудский ветряк не создает. Бригада по обслуживанию станции дежурит круглосуточно, но выезжать приходится не чаще одного раза в несколько месяцев. Как объясняет Сергей Романович, причиной становятся незначительные нарушения, которые устраняются на месте.

Мощность самого большого ветряка в Беларуси составляет 1,5 МВт. Интересуюсь у специалиста, много ли это для подобной установки?

– *Для сравнения: мощность одного электрочайника равна двум киловаттам. Мощности ветряка хватит, чтобы обеспечить энергией более 700 бытовых чайников.*

**– А сколько таких ветряков нужно, чтобы сделать, например, Новогрудок энергонезависимым?** – спрашиваю у Сергея Кумпяка.

– *Зимнее потребление энергии Новогрудком и районом составляет около 8,5 МВт. В том числе работа предприятий и заводов. Таким образом, 5–6 подобных ветряных установок смогут обеспечивать город...*

Ветряк под Новогрудком работает уже четыре года. Срок эксплуатации такого оборудования не более 20 лет. По словам Сергея Кумпяка, при нормальном режиме работы установка окупится в течение 10 лет с момента запуска.

В какую сумму ветряк обошелся «Гродноэнерго»?

– *Это коммерческая тайна,* – объясняет Сергей Романович. – *Нужно понимать, что сейчас основная электроэнергия вырабатывается за счет сжигания газ. Природных залежей газа у нас в стране нет, поэтому приходится покупать... Это ведь немалые средства. А здесь мы практически ничего не тратим. Конечно, себестоимость ветряков немалая, но есть и результат.*

## Ветряк для двоих

После установки ветряка Новогрудская возвышенность превратилась в настоящую достопримечательность. Кроме специалистов по обслуживанию оборудования сюда приезжают и местные жители.

– *Молодожены часто приезжают сюда фотографироваться,* – говорит Сергей Кумпяк. – *Не знаю, может, лопасти какую-то специальную энергию притягательную вырабатывают* (улыбается)... *Люди приезжают часто.*

Местных не пугает то, что зимой во время вращения лопастей с них падает лед: даже угроза получить серьезную травму людей не останавливает. И несмотря на то, что объект находится под видеонаблюдением, некоторые не стесняются оставлять после себя здесь бутылки из-под шампанского и презервативы...

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
**Фото автора.**

*г.Новогрудок.*

“НЕПРЫЧАСАНАЕ” ПІСЬМО

# Ціха, мірна…

Я лічу, што беларускаму народу выдаецца добры шанц без выхаду на Плошчу, без усялякіх там майданаў змяніць сваё жыццё ў лепшы бок. Трэба толькі прыйсці 11 кастрычніка на выбары прэзідэнта і прагаласаваць за жанчыну-кандыдата, напрыклад, Таццяну Караткевіч. Асабіста я так і зраблю.

Цяпер модна выбіраць кіраўніком дзяржавы жанчыну, бо ў гэтым ёсць рацыя. Напрыклад, пад яе наглядам мужчыны-міністры будуць лепей працаваць, яна будзе лепей вырашаць сацыяльныя пытанні і гэтак далей.

А.Лукашэнка даўно ўжо выканаў сваю ролю ў беларускай гісторыі. Тут палітыкам і гісторыкам надоўга хопіць разбірацца, што ён зрабіў добрага, што дрэннага.

Яго час даўно прайшоў, хоць ён па інерцыі працягвае кіраваць. І справы ў краіне ідуць усё горш і горш. Многія людзі, я заўважаю, ужо проста не ўспрымаюць яго асобу, яго стыль кіравання, яго шматлікія прамовы і выступленні.

Настаў час перамен, і трэба гэтым скарыстацца, каб не будаваць потым маўзалей.

Прыйдзіце на выбары, браткі беларусы, і зрабіце выбар на абнаўленне, на вольнае, без страху, жыццё.

**Аляксей БУЦЬКО, жыхар Гродна.**

АСАБІСТЫ ПОГЛЯД

# Няма за каго галасаваць



Не, такіх прэзідэнцкіх выбараў я не чакаў. Каб з чатырох прэтэндэнтаў ніхто не прыцягваў увагу, не ўяўляў цікавасці, не заслугоўваў павагі – гэта нонсэнс.

Першым у спісе значыцца Сяргей Гайдукевіч. На мой погляд, самы што ні ёсць палітычны прайдоха. Ну пабег адзін раз на выбары – праваліўся, дык забудзь, здавалася б, дарогу ў вышэйшы эшалон улады. Не, палез! Другі раз – зноў фіяска. Нармальны чалавек на яго месцы ад сораму скрозь зямлю праваліўся б. А ён, нахабнік, і зноў, і зноў прэцца ў прэзідэнты. Ствараецца ўражанне, што ён выконвае нейкае заданне – калі раптам А.Лукашэнка апынецца без спарынг-партнёраў, то менавіта ім і павінен застацца С.Гайдукевіч. Ці ж можа быць давер да такога чалавека? Для мяне ён, як напісала Святлана Калінкіна, проста палітычны жулік.

А што можна сказаць пра Таццяну Караткевіч? Прыгожая цацка ў руках авантурыстаў і правакатараў. У інтэрнэце, незалежных газетах ужо прайшла інфармацыя, якая сведчыць, што за рознымі дзмітрыевымі стаяць спецслужбы – як беларускія, так і расійскія. У якіх мэтах яны выкарыстоўваюць гэтую нікому не вядомую дзяўчыну-жанчыну – зразумела, яна і блізка не падступіцца да прэзідэнцкага крэсла, але спраўна выканае сваю ганебную ролю, за што атрымае пэўны ганарар.

Прыкладна тое ж самае магу сказаць пра Мікалая Улаховіча. Я пляваўся, калі чытаў яго заяву, што за ім стаіць такая магутная арганізацыя, як Беларускі кааператыўна-спажывецкі саюз. Я ведаю многіх людзей, якія працуюць у гэтай гандлёвай сістэме. Ніхто, з кім размаўляў у апошнія тыдні, добрага слова пра Улаховіча не сказаў. Ужо тое, што ён хоча ўцягнуць у свой так званы казацкі рух як мага болей беларусаў, наводзіць на глыбокі роздум. Ад яго заяў патыхае антыбеларушчынай, няверай у нацыянальнае адраджэнне нашай Радзімы, у самастойнае, без дыктату суседкі Расіі, існаванне Беларусі. Не, такога “героя” і на гарматны выстрал нельга падпускаць да прэзідэнцкай пасады.

Аляксандр Лукашэнка... Колькі разоў ён казаў, што добра падумае перад тым, як прыме рашэнне, ісці на чарговыя выбары ці не ісці. Што спакусіла на гэты раз? Шмат адказаў можа быць, у выглядзе версій. Але факт застаецца фактам – ён ізноў кінуў выклік грамадству. Нават у Кітаі, дзе пануе не самая лепшая палітычная сістэма, забаронена аднаму і таму ж чалавеку займаць найвышэйшую пасаду больш за дзесяць гадоў. А Лукашэнка замахнуўся на тое, каб быць прэзідэнтам больш за 25 гадоў, а можа, нават і да самай смерці. Ці можаце назваць хоць аднаго дыктатара, канчатковы лёс якога пры падобным палітычным доўгажыхарстве меў станоўчае завяршэнне?

Не, беларусаў чакае не выбар, не волевыяўленне, а нейкі ганебны спектакль. А таму хочацца спадзявацца, што ўвесь гэты палітычны фарс у рэшце рэшт наблізіць наш народ да сапраўдных дэмакратычных выбараў, калі ў спісе прэтэндэнтаў на пасаду нумар адзін будуць годныя асобы, якія змогуць вывесці Беларусь на еўрапейскі прасцяг.

**Мікола ПРАКАПЧУК, выбаршчык.**

ТАК ДУМАЮ...

# Чаму замоўчваецца галоўнае пытанне?

Слухаю прамовы А.Лукашэнкі падчас выбарчай прэзідэнцкай кампаніі і міжволі заўважаю: таго фанфарнага тону, захлёбу наконт “беларускага працвітання” ўжо няма. Ёсць больш рэалістычныя прызнанні аб складаных, цяжкіх праблемах, якія паўсталі перад краінай. Гэта, лічу, ужо бліжэй да жыцця. Але вось сур’ёзнага аналізу прычын, чаму склалася сённяшняя сітуацыя, як не было, так і няма. Проста сказаць, што ў многім вінаваты абвалы нацыянальных валют у Расіі і Казахстане, з якімі мы цяпер павязаны Еўразійскім саюзам, ды спаслацца на сусветны крызіс – значыць нічога не патлумачыць.

Зразумела, што крызіс зараз не толькі ў нас. Але навошта нам заблытвацца ў такіх саюзах, якія з самага пачатку не клеіліся і не абяцалі асаблівай узаемнай выгады ў перспектыве, а толькі ўмацоўвалі залежнасць ад зменлівасці расійскай кан’юнктуры?

Разлічваць на тое, што багатая нетрамі ўсходняя суседка будзе вечна трымаць Беларусь на нафтавай іголцы, наіўна нават для простага абываценя, тым болей для палітыка, не кажучы ўжо пра самога кіраўніка дзяржавы. Бясплатны сыр – толькі ў мышалоўцы, гэта свет даўно спасціг. Хіба не ясна было і ёсць, што за энерганосьбіты (як і за ўсё астатняе) трэба плаціць, і цана для залежнага пакупніка будзе высокая, куды вышэйшая, чым за газ і нафту. Разлік – па самым вялікім рахунку: створанай пакаленнямі беларусаў маёмасцю, паступовым ператварэннем тэрыторыі нашай краіны ў ваенную базу агрэсіўнай суседкі. І ўрэшце – канчатковую фактычную страту дзяржаўнай суверэннасці, незалежнасці, калі на нашай Беларусі і нават на яе назве можна будзе ставіць пахавальны крыж. Гэтыя разбуральныя працэсы ўжо ідуць навідавоку ва ўсіх.

Але глабальныя праблемы выратавання краіны з гібельнага тупіка, з глыбокіх правалаў у эканоміцы і духоўным жыцці першая асоба ў дзяржаве абыходзіць неяк бокам. А менавіта ж пры гэтым кіраўніцтве краіна даведзена да такога гаротнага стану. І – ніякай цэльнай, прадуманай праграмы на перспектыву грамадству не прапануецца. Без удумнага і рашучага рэфармавання эканамічнай і палітычнай сістэмы, істотнага (на справе) скарачэння непамерна разрослых бюджэтных структур і розных гучных затратных мерапрыемстваў дзеля пускання пылу ў вочы мы не ўстанем на ногі, а застанемся ўбаку ад цывілізаванага свету.

Хто ж, акрамя самога А.Лукашэнкі – пазаўчарашняга, учарашняга, сённяшняга кіраўніка дзяржавы і прэтэндэнта на новы тэрмін прэзідэнцтва, адкажа на галоўнае пытанне, што хвалюе грамадзян Беларусі: як нам жыць далей? Можа, Аляксандр Рыгоравіч яшчэ скажа на гэты конт нешта цікавае, новенькае ў параўнанні з тым, што было цягам 20 гадоў яго кіравання? А не – дык, па-мойму, і сэнсу няма выбіраць яго на новы пяцігадовы тэрмін...

**Пётр Пятровіч КОЛАСАЎ, жыхар пасёлка Цагельня Гомельскага раёна.**

ВОДГУК

# Два пікеты, дзве рэзідэнцыі...





Прачытаў у мінулым нумары артыкул “Пікет падманутых”, і ўзгадаўся пікет ля рэзідэнцыі амерыканскага прэзідэнта.

Першы здымак – з пікета падманутых дольшчыкаў ля рэзідэнцыі беларускага прэзідэнта. Вядома, чым скончыўся гэты пікет – затрыманнем некаторых ягоных удзельнікаў і пазаштатнай журналісткі «Народнай Волі» Кацярыны Андрэевай.

Другі здымак я зрабіў у жніўні 1991 года ля Белага дома – рэзідэнцыі амерыканскага прэзідэнта. Ужо і не памятаю, з якімі патрабаваннямі жанчына пікетавала Белы дом. Памятаю толькі, што гэта адбывалася ўжо некалькі дзён і што яна была эмігрантка з Харкава.

Не думаю, што прэзідэнты, да якіх звярталіся абодва пікеты, павінны выходзіць да іх і адразу вырашаць праблемы. Але пікеты звычайна ладзяцца, каб праз СМІ прыцягнуць увагу ўлады і грамадскасці.

З жанчынай ля Белага дома якраз размаўляе журналіст газеты «Балтымор сан», мусіць праз сродак масавай инфармацыі прыцягнуць увагу грамадскасці...

У Беларусі свой метад прыцягнуць увагу грамадскасці – забраць у пастарунак.

**Сяргей ВАГАНАЎ.**

БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ

# ППР – самая массовая партия

Пришла в голову такая мысль. Почему бы не создать у нас в Кричеве клуб или партию ППР? Расшифрую: “Посидели. Поговорили. Разошлись”. Ведь почему-то в Минске, Могилеве есть такие партии, клубы единомышленников. С разными названиями. Разве в столицах люди умнее? Они просто разворотливее.

**Валерий БЫСОВ.**

*г.Кричев.*

СТОП-КАДР

# Сёння ў Мінску будуць раздаваць апельсіны

Але не ўсім. А толькі тым, хто штодня для паездак на працу або вучобу выбірае ровар і скарыстаецца гэтым сродкам перамяшчэння 18 верасня.

Незвычайная акцыя мае назву “Прыехаў на працу на ровары – атрымай апельсін!», яе арганізатары – актывісты Мінскага веласіпеднага таварыства і Цэнтра экалагічных рашэнняў. Раздаваць садавіну веласіпедыстам яны будуць на людных вуліцах Мінска.

Акцыя, дарэчы, з’яўляецца адным з мерапрыемстваў Тыдня еўрапейскай мабільнасці, у якім у гэтым годзе бярэ ўдзел каля 1,5 тысячы гарадоў Еўропы. Кульмінацыяй тыдня мабільнасці стане Сусветны дзень без аўтамабіля, які адзначаецца 22 верасня. У Мінску ў гэты дзень у Лошыцкім парку веласіпедыстаў чакае шоу-конкурс ззяючых ровараў «Веласіпедыст, дай агню», трыял-шоу і іншыя мерапрыемствы.




ГАЗЕТА – ЧИТАТЕЛИ

*Наша давнишняя читательница из Светлогорска Валентина Пожилова уже 22-й год живет по системе природного оздоровления. А потому считает, что «Народная Воля» должна напомнить об уникальной памятке «Детка» знаменитого Учителя П.К.Иванова.*
*С удовольствием выполняем Вашу просьбу, Валентина Константиновна.*

# Детка

*Ты полон желания принести пользу всем людям. Для этого ты постарайся быть здоровым. Сердечная просьба к тебе: прими от меня несколько советов.*

1.Два раза в день купайся в холодной природной воде, чтобы тебе было хорошо. Купайся в чем можешь: в озере, речке, ванне, принимай душ или обливайся. Это твои условия. Горячее купание завершай холодным.

2.Перед купанием или после него, а если возможно, то и совместно с ним, выйди на природу, встань босыми ногами на землю, а зимой – на снег, хотя бы на 1–2 минуты. Вдохни через рот несколько раз и мысленно пожелай себе и всем людям здоровья.

3.Не употребляй алкоголя и не кури.

4.Старайся хоть раз в неделю полностью обходиться без пищи и воды с 18–20 часов пятницы до 12 часов воскресенья. Это твои заслуги и покой. Если тебе трудно, то продержись хотя бы сутки.

5.В 12 часов дня воскресенья выйди на природу босиком и несколько раз вдохни и помысли, как написано выше. Это праздник твоего дела. После этого можешь кушать все, что тебе нравится.



6.Люби окружающую тебя природу. Не плюйся вокруг и не выплевывай из себя ничего. Привыкни к этому – это твое здоровье.

7.Здоровайся со всеми везде и всюду, особенно с людьми пожилого возраста. Хочешь иметь здоровье – здоровайся со всеми.

8.Помогай людям чем можешь, особенно бедному, больному, обиженному, нуждающемуся. Делай это с радостью. Отзовись на его нужду душой и сердцем. Ты приобретешь в нем друга и поможешь делу мира!

9.Победи в себе жадность, лень, самодовольство, стяжательство, страх, лицемерие, гордость. Верь людям и люби их. Не говори о них несправедливо и не принимай близко к сердцу недобрых мнений о них.

10.Освободи свою голову от мыслей о болезнях, недомоганиях, смерти. Это твоя победа.

11.Мысль не отделяй от дела. Прочитал – хорошо. Но самое главное – делай!

12.Рассказывай и передавай опыт этого дела, но не хвались и не возвышайся в этом. Будь скромен.

*Желаю тебе счастья, здоровья хорошего.*

**Учитель ИВАНОВ.**

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

# Хто яна, Ніна Кіт?

***Прызнаюся, калі б не “Народная Воля”, то я, магчыма, і да сённяшняга дня нічога не ведаў бы пра Барыса Кіта. Добра, што газета пазнаёміла нас, чытачоў, з такім славутым нашым земляком. Матэрыялы, прысвечаныя яго 100-годдзю і яго 105-годдзю, я захоўваю як асаблівую рэліквію і даю пачытаць сябрам, якія заходзяць у госці. Але не-не ды ўзнікае пытанне: Барыс Кіт, які быў вымушаны эмігрыраваць з Беларусі, стаў сусветна вядомым вучоным, а хто ж тая жанчына, з якой ён эмігрыраваў? Пра іх дзяцей у публікацыях ёсць інфармацыя, а вось пра іх маці, з якой Барыс Уладзіміравіч узяў шлюб у маладосці, аўтары публікацый чамусьці не распавядаюць, толькі ўзгадваюць яе імя.***

***Ці не магла б “Народная Воля” выправіць гэты хіб і расказаць, хто ж яна, Ніна Кіт?***

**Максім ГАРОШКА, чытач “Народнай Волі” з першага нумара.**



## Ад рэдакцыі

Сапраўды, як атрымалася, што па-за ўвагай засталася такая асоба, як Ніна Кіт? Можа, таму, што апошнія дзесяцігоддзі Барыс Уладзіміравіч жыве ў Еўропе, а яго жонка засталася за акіянам, у Злучаных Штатах Амерыкі, і з ёю ў беларускіх журналістаў не было зносін.

Шкада, што звязацца з ёю ўжо немагчыма. Сёлета на пачатку чэрвеня на 95-м годзе жыцця яна пакінула наш свет. У апошні шлях яе праводзіла, можна сказаць, уся беларуская супольнасць Амерыкі. У памяці тых, хто яе ведаў, на многія-многія гады застанецца вобраз чалавека добрага, шчырага, глыбока адданага сваёй Радзіме – Беларусі. Вось вытрымка з развітальнага артыкула, надрукаванага ў газеце “Беларус”, якую выдае ў Нью-Ёрку “Беларуска-амерыканскае задзіночанне”.

## Яна была шматграннай асобай

“Нарадзілася Ніна Корсак 10 жніўня 1920 года ў мястэчку Лебедзеў каля горада Маладзечна ў Беларусі ў сям’і Наталлі Глод і Івана Корсака. Мела двух братоў.

У 1921 годзе ў выніку Рыжскай дамовы мястэчка Лебедзеў трапіла ў склад Польшчы. Ніна гадавалася ў бацькоўскай гаспадарцы.

У верасні 1939 года савецкія войскі занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі. Ніну бацькі паслалі ў настаўніцкую школу ў Баранавічы, дзе яна вывучала рускую мову і літаратуру.

Бацька Ніны быў дыяканам і кіраўніком царкоўнага хору. Пасля ўсталявання савецкай улады бацька быў арыштаваны і адпраўлены ў сібірскія лагеры, адкуль вярнуўся праз доўгія гады і хутка пасля гэтага памёр.

17 жніўня 1940 года Ніна ўзяла шлюб з вядомым беларускім грамадскім дзеячам і навукоўцам Барысам Кітам, які доўжыўся да 1975 года і быў скасаваны ў Нямеччыне. Мелі двух сыноў – Уладзіміра (нарадзіўся ў Польшчы ў 1941 годзе) і Віктара (нарадзіўся ў 1950 годзе ў Лос-Анджэлесе).

Уладзімір працаваў як Senior Corporate Computer Manager for Budget at National Aeronautics and Space Administration (Washington, D.C.), памёр у 2009 годзе.

Віктар – доктар, жыве ў Балтыморы.

У 1945–1948 гадах Ніна і Барыс былі ў Нямеччыне ў лагеры ўцекачоў, адкуль эмігрыравалі ў Злучаныя Штаты. Жылі ў Саўт-Рыверы (New Jersi), у Лос-Анджэлесе (Каліфорнія), а потым пасяліліся ў гарадку Кенсінгтон, штат Мэрыленд. Амерыканскае грамадзянства Ніна атрымала 28 мая 1954 года.

Яна ўвесь час дапамагала беларускім эмігрантам, якія воляй лёсу апынуліся далёка ад сваёй радзімы. З многімі яна захавала добрае сяброўства на доўгія гады. Працавала ў Джорж Вашынгтон Універсітэце як камп’ютарны аналітык.

Яна таксама любіла працаваць на зямлі. У яе садзе квітнелі цудоўныя азаліі, розныя дрэвы ўпрыгожвалі сад. Любіла танцаваць і была актыўным сябрам Senior Center, выдатна гуляла ў брыдж. Любіла і цаніла оперу. Унучка Ніны Марына Кіт і яе муж неаднаразова былі чэмпіёнамі нацыянальных амерыканскіх спаборніцтваў па тэнісе.

Ніна добра гатавала беларускія стравы, якія карысталіся папулярнасцю. Яе часта запрашалі гатаваць для вяселляў, сяброўскіх і прафесійных сустрэч. Яна шчодра дзялілася рэцэптамі нацыянальных страў, выступала ў адпаведных перадачах на тэлебачанні”.

***

Паглядзіце, калі ласка, на здымак. Сапраўды, светлым, духоўна ўзвышаным чалавекам была Ніна Кіт. Такой яна і застанецца ў памяці ўсіх, хто яе ведаў.

